# ПАГОНЯ

*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

*№ 9(65)* *1-7 КРАСАВІКА 1994 г.* *КОШТ 150 руб.*


**З.ПАЗЬНЯК:** *"Абвінавачваньні «Народнай газеты» надуманыя й фальшывыя"*

**СКУПЫ ПЛОЦІЦЬ ДВОЙЧЫ.** *Як улады вырашылі хутчэй забясьпечыць горад вадой.*

**ЯК ДАЕХАЦЬ ДА ВІЛЬНІ.** *Інтэрв'ю з беларускім консулам у Літоўскай Рэспубліцы.*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

## Памяць пра БНР жыве!

25 сакавіка ў памяшканьні Гарадзенскага лялечнага тэатра адбылася сьвяточная вечарына, прысьвечаная 76-ай гадавіне з дня абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Адкрыў сьвята хор "Бацькаўшчына" (былы хор "Паходня"), які выканаў некалькі рэлігійных твораў. Затым выступіў вядомы на Гарадзеншчыне краязнаўца А.Белакоз. Ён расказаў прысутным, як з аднадумцамі-сябрамі сьвяткаваў угодкі БНР у гады, калі гэта было небясьпечна, і выказаў спадзяваньне, што прыйдзе час, калі гэты дзень будзе адзначацца ў кожнай беларускай сям'і нароўні з Вялікднём і Калядамі. Але не трэба браць прыклад з камуністаў, сказаў ён, для якіх, напрыклад, 7 лістапада быў чарговым выпадкам, каб напіцца. Далей студэнты факультэта беларускай філялёгіі й культуры Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсітэта прачыталі ўрыўкі з твораў Купалы й Караткевіча. Потым новы першы прарэктар ГрДУ спадар Краўцэвіч зачытаў тэкст "З-яй Устаўной Граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі" і сказаў некалькі слоў пра значнасьць адзначаемай даты. Парадаваў сваім выступам тых, хто прыйшоў на вечарыну, ансамбль народнай песьні "Гасьцінец". А адзін з яго ўдзельнікаў нагадаў прысутным, што 25 сакавіка спаўняецца таксама два гады з дня аднаўленьня выхаду газэты "Пагоня" й выканаў для калектыву рэдакцыі песьню "Аксамітны летні вечар".

Павіншаваць беларусаў са сьвятам прыйшоў у гэты дзень харавы гурт польскага ансамбля "Лехіці", да яго далучыўся й старшыня Саюзу палякаў Беларусі Т.Гавін. Песьні-весялухі й прыпеўкі прагучалі ў выкананьні ансамбля "Туды". Затым на сцэну выйшаў загадчык кафэдры беларускай гісторыі й культуры ГрДУ А.Пяткевіч. Ён яшчэ раз нагадаў аб неабходнасьці ўсьвядоміць вялікую ролю адзначаемай даты ў фарміраваньні нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў, у тым, каб яны нарэшце пачалі адчуваць сябе гаспадарамі на сваёй зямлі. У канцы вечарыны прысутныя стоячы прасьпявалі нацыянальны гімн "Магутны Божа".

Дарэчы, матэрыяльную падтрымку ў арганізацыі гэтага мерапрыемства аказаў культурна-асьветніцкі Фонд "Бацькаўшчына".

**А.ДУК.**

## Шаноўны спадар рэдактар!

З далёкай Аўстраліі я шчыра Вас й усіх сумленных беларусаў вітаю з 76-ымі Ўгодкамі гістарычнага Абвяшчэньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка 1918 года й зычу Вам посьпехаў у жыцьці й працы па замацаваньню аднаўленай незалежнасьці Рэспублікі Беларусь!

У мяне ёсьць пагаворка, што "няма нічога даражэйшага ў жыцьці, як асабістая й нацыянальна-дзяржаўная свабода - і няма нічога болей ганаровага, як змаганьне за сваё вызваленьне", і мы павінны нізка схіліць свае галовы перад Сьвятой Памяцьцю тых мільёнаў беларусаў - гэрояў, якія загінулі ў сталінскіх і гітлераўскіх турмах за тое, каб жыла Беларусь!

ВЕЧНАЯ СЛАВА ЗМАГАРАМ ЗА СВАБОДУ!!! НЯХАЙ ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ Й НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!!!

З пашанай да ўсіх Вас

**Алесь Алехнік, генэральны сакратар BELARUSIAN ASSOCIATION OF AUSTRALIA.**

## СЬВЯТА АДБЫЛОСЯ

Напярэдадні 76-ых угодкаў БНР у Доме культуры у Наваградку, была наладжана вечарына, прысьвечаная гэтай даце. Сьвяткаваньне стала магчымым, дзякуючы мясцовым суполкам БНФ, Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", Наваградзкаму аддзяленьню Саюза палякаў Беларусі. Пасьля ўрачыстай часткі быў канцэрт мастацкіх калектываў горада. Ніхто з прадстаўнікоў гарадзкіх улад на вечарыну не прыйшоў, затое прысутнічаў на ёй шэф Наваградзкага КДБ.

**(Аф).**

## Чакалі Ўнучку - прыехала Сямдзянава

Нягледзячы на тое, што наваградзкія раённыя ўлады спрабавалі перашкодзіць таму, каб народны дэпутат РБ, член апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Г.Сямдзянава сустрэлася з прадстаўнікамі грамадзкасьці мястэчка Любча й вёскі Ягневічы, сустрэча адбылася. Яна расказала аб сацыяльна-эканамічным і палітычным становішчы ў рэспубліцы, паведаміла таксама аб планах Народнага Фронта на пэрспэктыву. Прысутныя былі вельмі задаволеныя тым, што Г.Сямдзянава сустрэлася з імі; хаця й абіралася ад Наваградку, і абураліся тым, што дэпутат РБ Унучка, які быў абраны ў парлямант ад выбарчай акругі, у якую ўваходзілі вышэйназваныя населеныя пункты, па сёньняшні дзень гэтага не зрабіў.

**(Аф).**

## 19 сакавіка ў Наваградку адбыўся ўстаноўчы сход гарадзкой арганізацыі БНФ "Адраджэньне"

Удзел у сходзе прынялі прадстаўнікі трох суполак горада. З уступным словам выступіў каардынатар Управы БНФ па Гарадзеншчыне С.Сіўчык, старшыня раённай Рады ТБМ В.Стома й старшыня аднае суполкі Наваградка М.Шчэмер.

Па выніках сходу вызначана гарадзкая Рада, старшынёй якой абраны А.Афанасік, намесьнікамі - М.Шчэмер і Г.Таулуй, скарбнікам - С.Локшына.

Таксама было вырашана аб'яднаць суполкі Партыі БНФ, якія створаны на тэрыторыі горада ў Наваградзкую гарадзкую арганізацыю Партыі БНФ і абраць Раду гэтай арганізацыі ў складзе Рады БНФ "Адраджэньне". Былі распрацаваны неабходныя дакумэнты дзеля рэгістрацыі, якія хутка будуць накіраваныя ў Наваградзкі гарвыканкам.

**М.МАІСЕЕНКА.**

## Гарадзенскіх ветэранаў аб'ядная любоў да Бацькаўшчыны

Вестыбюль факультэта беларускай філялёгіі й культуры Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсітэту віраваў ад галасоў прысутных. Немаладыя ўжо людзі падыходзілі й падыходзілі. Ля стала, дзе рэгістраваліся дэлегаты на Гарадзенскую гарадзкую канфэрэнцыю па стварэньню ў Горадні альтэрнатыўнай ветэранскай арганізацыі, было найбольш людна. У гэтым натоўпе мне сустракаюцца знаёмыя. Вось падыйшоў да стала рэгістрацыі спадар Міхась Амелішка.

- Спадар Міхась, што прывяло Вас сёньня сюды?

- Калі ўпершыню пачуў, што ў Горадні ствараецца новая вэтэранская арганізацыя, якая мае на мэце абараняць беларушчыну, адразу ж далучыўся да аргкамітэту. І вось як вынік - сёньня ствараецца новая вэтэранская арганізацыя Горадні. Гэта добра, бо тых, хто сёньня тут сабраліся не дзеля прывілеяў, а каб змагацца за дэмакратычную, незалежную Беларусь, аб'ядноўвае любоў да Бацькаўшчыны.

Апанас Цыхун, заслужаны настаўнік:"Асабіста я прыйшоў на гэты сход дзеля таго, што на ім будуць аб'ядноўвацца патрыёты, якія, нягледзячы на свой узрост, жадаюць дапамагчы любай Беларусі. Мы будзем змагацца супраць тых, хто бэсьціць Бацькаўшчыну. Найперш гэта тычыцца існуючай да гэтага вэтэранскай арганізацыі, якая акрамя чырвонага штандара й сусьветнай рэвалюцыі нічога не жадае бачыць".

Непадалёк прызыдыума сабраўся гурт. Тут рэяводзіць спадар Талерчык. Ён распавядае прысутным пра эканамічнае становішча ў рэспубліцы. Кажа, што сюды найперш трэба накіроўваць высілкі вэтэранам, бо сёньня - гэта самае балючае месца ў арганізме дзяржавы.

Распачынаецца паседжаньне й рэяводца абвяшчае, што на канфэрэнцыю зарэгістравалася звыш пяцідзесяці чалавек.

Уступнае слова бярэ спадар Мікола Мельнікаў. Ён расказвае пра мэты й задачы арганізацыі. Затым слова бярэ завадатар справы Вікэнцій Жук. Спадар Жук даводзіць прысутным зьмест Статуту. Пасьля некаторых, дарэчы, слушных прапаноў, апошні прымаецца. Дэлегаты абіраюць Раду, рэвізійную камісію, прымаюць палітычную заяву. Напрыканцы было вырашана, што складкі арганізацыі будуць дабраахвотнымі. таксама вырашана, што з цягам часу арганізацыя будзе мець свой рахунак у банку й пячатку. Прынята й назва новай вэтэранскай арганізацыі ў Горадні - яна будзе звацца Беларускае згуртаваньне вэтэранаў. Старшынёй Рады абраны спадар М.Мельнікаў.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ВІЗЫТ МІНІСТРА АБУДЗІЎ ПАДНАЧАЛЕНЫХ

Знаходжаньне міністра ўнутраных спраў У.Данько ў Горадні прычыніла, напэўна, больш за ўсё непрыемнасьцяў бабулькам, якія гандлююць цыгарэтамі, бо менавіта ў гэты час у горадзе актывізавалі сваю дзейнасьць міліцыянты патрульна-паставой службы. Яны штодзённа й па некалькі разоў наведваліся на торжышчы й перашкаджалі гандлярам займацца справай: адных проста папярэджвалі, што прадаваць тытунёвыя вырабы без адпаведнага дазволу, забаронена, у другіх канфіскоўвалі тавар на месцы, а тым, хто выказваў абурэньне, прапаноўвалі прайсьці "у аддзяленьне".

**А.Г.**

## Чым хутчэй будуць новыя выбары, тым меньш працы будзе будучым парламентарыям

### Зварот да дэпутатаў

Спадары дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь! Ваш дэпутацкі корпус на першых ступенях сваёй дзейнасьці зрабіў нямала добрых спраў. Ён абвесьціў незалежнасьць Рэспублікі Беларусь, правільна вызначыў галоўныя напрамкі яе разьвіцьця, устанавіў гістарычную сымболіку краіны, прыняў справядлівы закон аб мовах і некаторыя іншыя акты. Гэтыя рашэньні Вярхоўнага Савету, кіруемага старшынёй С.Шушкевічам, чырвонымі літарамі будуць занесены ў гісторыю нашага Краю. Праз гады й тысячагоддзі гэта не будзе забыта ўдзячным беларускім народам. Але, на жаль, зрабіць больш цяперашняму складу Вярхоўнага Савету не было суджана. У яго працы наступіў спад. Станоўчая праца дэпутацкага корпусу пайшла па нахільнай плошчы. Выразны вадападзел паміж былым і будучай працай Вярхоўнага Савета быў пакладзены пры абмеркаваньні на сэсіі пытаньня аб рэфэрэндуме па датэрміноваму правядзеньню выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі.

Спадары дэпутаты! Многія з вас, у тым ліку й дэпутаты з юрыдычнай адукацыяй, як гэта відаць з іх прамоў, і на гэты дзень не ўсьвядомілі свайго ўчынка, прагаласаваўшы за "Юрыдычна абаснаваны" дэпутатам Булахавым "законны", а на самой справе бязпрэцэдэнтны ў сусьветнай практыцы выпадак - недавер сваім выбаршчыкам, г.зн. народу ў яго законным, калі не сказаць прыродным, права на рэфэрэндум па датэрміноваму правядзеньню выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі. Праўда, зрабіўшы гэты крок, ёсьць магчымасьць задавальняцца тым, што пройдуць гады, на палітычную арэну прыйдуць новыя пака-

(Заканчэньне на 2-й стар.)





# ПОДЛЫЯ МЭТАДЫ, ПОДЛАЯ ПАЛІТЫКА

## Выступ З.Пазьняка ў Вярхоўным Савеце 17 сакавіка 1994 года

Спадары дэпутаты!

"Народнай газэце" удаўся цяжкі экспэрымэнт - сумяшчэньне палярных, часам узаемавыключаючых матэрыялаў, падыходаў, сьветапоглядаў і аб'яднаньне іх на аснове дэмакратычнай пазыцыі газэты, здаровага сэнсу й аб'ектыўнасьці. Так, гэта не камуністычная, а менавіта дэмакратычная газэта сапраўды парлямэнцкага плюралізму, якая дае магчымасьць друкавацца дэпутатам розных фракцыяў. Каб на практыцы рэальна ажыцьцяўляць прынцыпы плюралізму, патрэбен менавіта дэмакратычны падыход. Не бывае камуністычнага плюралізму, камуністычнай дэмакратыі ці камуністычнага пэрыядычнага друку, які б паважаў сваіх контрапанэнтаў. Атака на "Народную газэту" зыходзіць менавіта ад камуністычных дэпутатаў, абумоўленая іхняй палітычнай аднабакасьцю й нецярпімасьцю ідэалёгіі.

Тым часам магчымасьць пісаць і друкавацца ў "Народнай газэце" ёсьць ва ўсіх. Мне прыходзілася там чытаць матэрыялы нашых камуністычных "сачыніцеляў". Так бы мовіць, "и говорят, как пишут". Ну дык і пішыце, "товарищи", тварыце, навошта ж з-за свайго творчага бясьсільля "крэслы ламаць".

Аднак, справа, відавочна, не толькі ў камуністычнай псыхалёгіі. "Народная газэта" не задавальняе шмат каго: і расейскія спэцслужбы, і карупцыянэраў, і шавіністаў, і, вядома ж, каляўрадавыя структуры гэтых спэцслужбаў. Спадар Данілаў патрабуе помсты спадару Сярэдзічу рукамі дэпутатаў большасьці Вярхоўнага Савету. Паспрачаліся, бачыце, на курорце пра спадара Шушкевіча. Няма ўжо больш пра што спрачацца, панове.

Абвінавачаньні "Народнай газэты" надуманыя й фальшывыя. У рэальнасьці ж гэтыя абвінавачаньні ёсьць адлюстраваньне камуністычнай палітыкі "паўзучага" пераразьмеркаваньня ўлады той групай намэнклятуры, якая арыентаваная на расейскія імпэрскія й карумпаваныя колы, што падрыхтоўваюць інкарпарацыю Беларусі ў Расею. Усялякую крытыку такой палітыкі й яе спраўцаў тут жа выстаўляюць як "варожасьць да рускага народа", як "антырускія насрої" і г.д. Варожасьці да гэтага народа на старонках "Народнай газэты" я не знайшоў, хаця ў рэальнасьці паводзіны часткі рускага грамадзтва й асабліва яго асобных прадстаўнікоў цалкам заслугоўваюць на "антырускія настрої". Аднак справа не ў тым. Справа ў больш важным - у імпэрскай падступнай палітыцы гэтай дзяржавы ў дачыненьні да сваіх суседзяў, якую дэкляруюць і праводзяць шавіністычныя колы Расеі.

Гістэрычная ненатуральная й нават неадэкватная рэакцыя на мой артыкул "О русском империализме и его опасности", падрыхтаваны для саўмінаўскай "Советской Белоруссии" і надрукаваны ў "Народнай газэце", тлумачыцца псыхалягічным вынікам раптоўнага зьдзіраньня маскі з фальшывай позы, за якой маскіраваліся расейскія дзяржаўныя імпэрыялісты ўсіх масьцяў і іхняя пятая калёна на Беларусі. Да гонару расейскай думкі там хоць слабенькая крытыка гэтай шавіністычнай эпідэміі, але ўсё ж пачынае гучаць. Спадарыня В.Васільева, напрыклад, піша ў шостым нумары расейскага дэмакратычнага часопіса "Новое время":"на заседании президиума Совета Министров Андрей Козырев предложил оказать финансовую помощь русским общинам в ближнем зарубежье, с тем, чтобы их представители со временем смогли занять командные посты в экономике бывших союзных республик."

Такім чынам расейская "пятая калёна" ў краінах СНД - гэта не абстракцыя, не мэтафара, не эўфарызм, а канкрэтная палітыка й рэальная зьява. Дарэчы, на Беларусі заняцце камандных пасад у эканоміцы клеўрэтамі структураў Саўміна й расейскай рэзыдэнтуры, што дзейнічае тут нахабна й амаль адкрыта.

Далей спадарыня Васільева піша:"министр Козырев, недавно начавший осваивать поприще "патриота", высказался гораздо более радикально, чем господин Жириновский, уже получивший ярлык "фашиста"."

Дактрына Козырава-Жырыноўскага й іншых спадароў з цяперашняга расейскага кіраўніцтва гэтак жа як і дактрына Гітлеры грунтуецца на этнічным шавінізме, на сьцьвярджэньні "жыцьцёвых інтарэсаў" Расеі ў дзяржавах Балтыі й СНД і на абароне правоў "русскоязычных" у гэтых краінах. Гэта ёсьць клясічная імпэрская праява фашызму. З фашызмам трэба змагацца.

Сіндром жырыноўшчыны, імпэрскага шавінізму захліствае расейскае палітычнае кіраўніцтва. Галасоў здаровага сэнсу амаль не чуваць. У Расеі няма дэмакратычнай апазыцыі. Апазыцыя там - чырвона-карычневая. А гэта значыць, што Расея не мае дэмакратычнай пэрспэктывы. У лепшым выпадку там гарантаваная дыктатура ці таталітарны рэжым, у горшым - грамадзянская вайна. На гэтай высьнове зыходзяцца дасьледчыкі цяперашняй Расеі.

Руская інтэлігенцыя, рускае грамадзтва ганебна маўчыць. Сумленьне Расеі стала бараніць, як ні дзіўна, пакуль адна спадарыня Валерыя Навадворская. "Когда президент России, - піша яна ў "Известиях" (4.03.94г.) - обращается к президенту Латвии с заявлением о том, что бесправие там русскоязычных очень трогает и беспокоит не только его, но и весь наш народ, слушать это стыдно... Потому, что это ложь насчёт нарушения прав. Нормальным людям там давно дали права... Что же произошло с Андреем Козыревым, Сергеем Шахраем, Владимиром Шумейко? (Ці дадам ад сябе, з Міхаілам Палтаранінам, што адкрыў "лягерны іврыт"). Да то же, что с персонажами пьесы Ионеско "Носороги"... Страх потерять жизнь и власть движет тем, кто переходит на сторону носорогов... Мы сделаем то, что не смогли сделать из позиции врага, потрясая ядерной дубиной: уничтожим Запад изнутри, навязав ему то, что пока является единственным продуктом нашего экспорта, то есть своё хамство, свой беспредел, своё невежество, своё перманентное насилие... Что мы ещё умеем, кроме того, чтобы рвать на части заживо, как Грузию, как Молдову, как Таджикистан?" Так пішуць рускія людзі, ў якіх баліць душа за Расею.

Я думаю, чаму б "цьвёрдым" дэпутатам гэтага Вярхоўнага Савета, што так клапоцяцца тут пра Расею, не прад'явіць свой іск не "Народнай газэце", а "Известиям", "Новому времени", ці тэлестудыі "Астанкіна". Тым больш, што раней такія спробы "ничтоже сумняшеся" ужо былі.

Нармальныя людзі, шаноўныя спадары, дзе б яны не жылі, у Расеі ці ў Беларусі, не будуць падтрымліваць імпэрскую палітыку, фашысцкія й камуністычныя пагрозы. У "Народнай газэце" гэта, дзякуй Богу, разумеюць, і больш чым 600 тысяч грамадзянаў Беларусі яе выпісваюць і падтрымліваюць. І антырускія настрої тут ні пры чым. Добра, каб гэта зразумелі й у гэтым зале. Тыя, вядома, хто здольны нешта разумець.

Дзякуй за ўвагу.

# Чым хутчэй будуць новыя выбары, тым меньш працы будзе будучым парлямэнтарыям

(Пачатак на 1-й стар.)

леньні, а гэтае рашэньне зойме прыемнае месца ў юрыдычнай літаратуры па пераліку антыдэмакратычных прыёмаў.

Няўжо нават на ўзроўні паўсядзённага грамадзкага ўсьведамленьня, г.зн. на ўзроўні правільнага чалавечага розуму, было не зразумела, што нават дыктатарскія рэжымы пры вырашэньні сваіх задач заўсёды спасылаліся на думку народа? А вы, спадары дэпутаты, супрацьпаставілі яму сваё "я". Цяпер кожнаму з вас трэба падумаць: ці можа ён, маючы пачуцьцё асабістай годнасьці ня толькі як дэпутат, але, перш за усё, як чалавек, грамадзянін Рэспублікі, выступаць ад імя выбаршчыкаў, народа, думку якога ён праігнараваў? Больш таго, трэба падумаць і над тым, як узгадняецца яго ўчынак з яго назвай - народны дэпутат. Толькі гэтым рашэньнем, не гаворачы аб іншых фактах, дэпутаты самі зрабілі Вярхоўны Савет нелегітымным органам. З створанага становішча ёсьць толькі адно выйсьце - датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Гэта агульнавядомая ісьціна. Не разумець яе можа толькі чалавек, які неадэкватна адлюстроўвае складаную сытуацыю. Але гэта толькі адзін бок дадзенай праблемы. Нагадаю й другі яе бок. Пры абмеркаваньні пытаньня аб рэфэрэндуме вы прынялі палітычную заяву аб правядзеньні датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у сакавіку 1994 года. Ужо бязспрэчна можна адказаць, што яна будзе ня выканана. Як жа так? Гэта ж палітычная заява, а не пустая размова пьянага дзядькі каля плота. Гэта ж заява вышэйшага заканадаўчага воргана краіны. А на справе: адно гаворым (вырашаем), другое - робім, а трэцяе (можна падумаць) - трымаем у памяці. Што, няпраўда? Пры гэтым, спадары дэпутаты, гэта не адзіны выпадак. Калі памятаеце, то восеньню 1992 года вы зрабілі палітычную заяву аб тым, што да канца 1993 года будзе прынятая новая канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Дзе ж яна? Яе няма! Гэта ў той час, калі многія краіны СНД ужо ўрачыста адзначалі гадавіны прыняцьця сваіх канстытуцый.

Спадары дэпутаты! Сярод вас ёсьць адукаваныя, таленавітыя й разумныя людзі. Даручыце, калі ласка, ім даць:

1) юрыдычную адзнаку (паўтараю - адзнаку) зьявам, якія датычаць невыкананьня Вярхоўным Саветам сваіх жа вышэй пералічаных палітычных заяў. Хай яны вам скажуць, як такія ўчынкі называюцца ў сусьветнай практыцы й які павінен быць вынік пры іх невыкананьні;

2) палітычную адзнаку дзеяньням Вярхоўнага Савета па гэтых жа праблемах;

3) маральную адзнаку дэпутацкаму корпусу, які стаў на гэты шлях.

Калі такая інфармацыя вам будзе дакладзена, кожны з вас, гінэтычна непадвергнуты ідэялягізацыі, зразумее аб'ектыўную неабходнасьць правесьці датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

Неабходнасьць датэрміновых выбараў зьвязана і з многімі іншымі рэальна існуючымі фактарамі. Па-першае, цяперашні склад Вярхоўнага Савета выбіраўся ў зусім іншых сацыяльна-эканамічных умовах і быў разьлічаны для зусім іншых мэтаў - два разы ў год галасаваць "за". Умовы зьмяніліся. Яны павінны нарадзіць і новы вынік - новыя выбары. У гэтым меркаваньні нічога новага няма. Гэта вядома кожнаму адукаванаму чалавеку тэзіс марксысцкай матэрыялістычнай дыялектыкі парных катэгорый: умовы й вынікі (прычины и следствия). Гэты вынік павінны падтрымаць у Вярхоўным Савеце камуністы і ім спачуваючыя дэпутаты, калі яны ня ставяць асабіста карысных мэтаў. Па-другое, цяперашні дэпутацкі склад загадзя быў прадвызначаны існуючымі ў той час сацыяльнымі структурамі. Датэрміновыя выбары ліквідуюць гэтую несправядлівасьць. Па-трэцяе, многія з цяперашніх дэпутатаў былі безальтэрнатыўнымі кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета па той або іншай выбарчай акрузе. Маральны бок гэтай праблемы патрабуе правядзеньня, і як мага хутчэй, датэрміновых выбараў у заканатворчы орган краіны. Па-чацьвёртае, многія з ліку дэпутатаў наогул не выбіраліся народам па акругах, а былі накіраваны існуючымі сацыяльнымі структурамі (абраны імі) ў Вярхоўны Савет у якасьці дэпутатаў (пры выступленьні некаторыя з іх самі называюць сябе народнымі). У гэтым выпадку гавораць: сам Бог наказаў выправіць гэтае антыдэмакратычнае непаразуменьне. Справядліва перавырашыць гэтую задачу можна толькі пры наяўнасьці новага дэмакратычнага закона аб выбарах і датэрміновым іх правядзеньні. Па-пятае, узрост некаторых дэпутатаў, як гэта відаць з экранаў тэлевізараў (адны чытаюць газэты, другія аб чымсьці размаўляюць, трэція бязініцыятыўна сядзяць і г.д.) фізыялягічна перашкаджае ім актыўна займацца заканатворчай дзейнасьцю. Гэтыя ўзрасныя асаблівасьці чалавека будуць улічаны самімі выбаршчыкамі ў час правядзеньня датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет краіны. Вышэй пералічаныя факты й зьявы, якія маюць месца ў нашым грамадзкім жыцьці, сьведчаць аб безальтэрнатыўнасьці датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет. Гэтая ідэя пацьвярджаецца й тым, што некаторыя "народныя" дэпутаты ня толькі ня могуць, але й ня хочуць разумець самых простых, элементарных ісьцін. Напрыклад, што рускае слова "совет" у перакладзе на беларускую мову азначае "рада". Гэта прамое ігнараваньне мовы, а значыць, і культуры таго народа, ад імя якога яны выступаюць. Аб чым тут яшчэ магчыма гаворка? Тут так усё зразумела: датэрміновыя выбары!

Спадары дэпутаты! Неабходнасьць датэрміновых выбараў можна пацьвердзіць і прынятымі рашэньнямі на цяперашняй сэсіі Вярхоўнага Савета. Месяц "працы". А што дала гэта "праца" народу? А колькі млн. рублёў каштуе кожны дзень гэтай "працы"? Тое самае можна сказаць і пра некаторыя папярэднія сэсіі й прынятыя на іх законы й пастанаўленьні. Адгэтуль і іх вынікі. Калі будзе абраны новы склад дэпутатаў (незалежна ад яго палітычнай структуры), то мы з вамі будзем сьведкамі таго, як ён будзе, з аднаго боку, перапрацоўваць, а то і адмяняць некаторыя з прынятых вамі актаў (напрыклад, пастанову аб забароне рэфэрэндуму), а з другога - будуць зьнятыя з парадку дня размовы па ўжо справядліва вырашаных пытаньнях (напрыклад, па пытаньню аб мовах). Так што чым раней будуць праведзены датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет, тым менш будзе працы будучым парлямэнтарыям. Трэба ўсім дэпутатам праявіць грамадзянскую сьціпласьць: не трымацца за партфэль законатворцы, прыняць закон аб выбарах, прызначыць у красавіку дату іх правядзеньня й самараспусьціцца. Гэтым і будзе зьнята сацыяльная напружанасьць сярод нашага грамадзтва, а то ня дай Бог іншага.

Г.ЛУСТАЧ, кандыдат філязофскіх навук, дацэнт.





# ЭКАНОМІКА

## ХТО ПЕРАШКАДЖАЕ НЕМЦУ ПРАЦАВАЦЬ У БЕЛАРУСІ?

Нядаўна гарадзенскіх журналістаў запрасіў да сябе на прэс-канфэрэнцыю нямецкі бізнэсмэн Экхард Раабэ. Роўна год таму ён адчыніў у Горадні краму з харчовымі й прамысловымі таварамі, заключыўшы пры гэтым пагадненьне на арэнду памяшканьня з гархарчгандлем у будынку крамы па вуліцы Дзяржынскага,9.

Першае, аб чым ён даволі сумна аб'явіў журналістам, гэта тое, што заўтра скончыцца тэрмін дамовы, і яму даслалі паперы з гарвыканкама аб тым, каб ён вызваліў памяшканьне, а таксама кватэру, дзе жыве разам з сваёй жонкай. Дарэчы, за арэнду памяшканьня ён плаціў пяць мільёнаў у месяц, а за кватэру без тэлефона - трыста даляраў, таксама ў месяц.

Праўда, усё ж напачатку спадар Раабэ вырашыў апавядаць не аб самым дрэнным. За год працы ён нажыў у нашай краіне ня толькі страты, але й нейкі вопыт.

На яго думку, Беларусь - вельмі прыдатная краіна для замежных інвэстыцый, асабліва для немцаў. Краіна прывабліва сваім удалым геаграфічным становішчам, што ў значнай ступені спрые для адкрыцьця вялікага рынка былога СССР. Аднак закон "Аб замежных інвэстыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь" добры толькі на паперы, паколькі на практыцы ён не працуе. І перш за ўсё таму, што ўсякую перашкоду замежнаму капіталу чыняць мясцовыя органы ўлады.

У Законе запісана, што інвэстары маюць права на карыстаньне зямлёй, а таксама нерухомасьцю, аднак зрабіць на практыцы гэта немагчыма. Рэгістрацыя фірмаў вядзецца бюракратычнымі мэтадамі доўга й вельмі дорага каштуе. У іншых краінах такую паслугу атрымліваюць аўтаматычна й таньней.

Практычна немагчыма з-за бюракратычных перашкодаў распараджацца чыстым прыбыткам, узьнікае шмат праблемаў пры перавозе тавараў на мяжы, доўгі час замежныя спэцыялісты не атрымліваюць права на жыльле.

Аднак спадар Раабэ ўклаў ужо пэўны капітал і вельмі не хацеў бы заставацца ў стратным становішчы. Больш таго, ён плянуе адкрыць у горадзе новыя вытворчасьці па вырабу вакон, дзьвярэй з штучных матэрыялаў. Яго фірма ў Нямеччыне зьвязана з многімі іншымі фірмамі, і тыя таксама зацікаўлены пастаўляць у Беларусь новыя тэхналёгіі, невялікія прадпрыемствы па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі й другасных сыравіне.

Фірма ўжо зараз супрацоўнічае з Гарадзенскім дзяржаўным унівэрсытэтам. Вядзецца навучаньне студэнтаў аднаго з факультэтаў новым міжнародна-эканамічным адносінам, у пэрспэктыве плянуецца іх практыка ў Нямеччыне.

Увогуле, спадару Раабэ прыкра глядзець на границы, калі ў такую краіну, як Беларусь, з Захаду вязуць толькі гарэлку або не зусім якасныя харчы. Ён лічыць, што ўсё гэта можна вырабляць на месцы.

Самае непрыемнае, што давялося перажыць нямецкаму бізнэсмэну, - мясцовыя бюракраты, якія, нават не папярэдзіўшы яго, апублікавалі ў вабласной газэце рашэньне выканкама аб разрыве арэнднай дамовы, пры гэтым не прывёўшы ніякіх канкрэтных прычын.

На яго думку, добрых адносін не атрымалася яшчэ з тых часоў, калі спадар Раабэ гандляваў у краме легкавымі аўтамабілямі. Напачатку машыну пачалі вымагаць падатковыя інспэктары, а затым і чыноўнікі гархарчгандлю. Дарэчы, у гарадзкую пракуратуру пададзена заява на канкрэтных асобаў, якія займаліся вымагальніцтвам.

Зараз фірма падала прашэньне ў аблвыканкам з хадайніцтвам адмяніць рашэньне гарвыканкама. Чым гэта скончыцца - гадаць не даводзіцца, аднак апошнімі днямі крама яшчэ працавала. А яшчэ на прыкладзе спадара Раабэ вельмі зразумела, чаму так мала заходніх інвэстараў у нашым горадзе й краіне.

М.К.

## СПРАВА НЕ ТОЛЬКІ МАЯ

Як і звычайна, напачатку года па прадпрыемствах праходзяць сходы па заключэньню калектыўных дагавораў, але ці есьць сэнс у наш час займацца гэтай нікому не патрэбнай справай? Як так, скажаце вы, калектыўны дагавор рэгулюе ўзаемаадносіны паміж адміністрацыяй і працоўным калектывам на працягу ўсяго тэрміну яго дзеяньня. Можа, на іншых прадпрыемствах гэта й сапраўды так, але толькі не на Гарадзенскім гарбарным аб'яднаньні. Тут такія "паперкі" зусім ня маюць ніякага значэньня, а пішуцца, відаць, для таго, каб адміністрацыі аб'яднаньня разам з яго прафсаюзным калектывам было чым пускаць пыл у вочы. Але праз нейкі час пачынаеш разумець, што ўсе гэта робіцца для таго, каб наўмысна спыніць работу прадпрыемства. Для гэтага дастаткова прачытаць вытрымкі з калектыўнага дагавора за 1993 год і паглядзець, як на самой справе ўсе адбывалася. Вось, да прыкладу:—скарачаць адміністратыўна-упраўленчыя выдаткі...

А зараз давайце паглядзім, як яны скарачаліся.

Нягледзячы на тое, што колькасьць працуючых не дасягае нават колькасьці звычайнага цэха, завод называецца аб'яднаньнем, што дае магчымасьць, напрыклад, дырэктару атрымліваць зарплату за генэральнага дырэктара. Такім чынам, на ўсей іерархічнай лесьвіцы ідуць даплаты не за работу й яе вынікі, а за ўсялякага роду званьні. І гэтым карыстаецца толькі адміністрацыя. Калі спыняецца вытворчасьць, адміністрацыя атрымлівае ранейшую зарплату.

У час, калі адчуваецца востры недахоп сродкаў, купляецца чарговая "Волга" за 40 мільёнаў рублёў. -заключаць новыя дамовы на выкананьне работ, перадаваць калектыву работы, якія раней аддаваліся на іншыя прадпрыемствы й арганізацыі, пашыраць рознага роду паслугі... Бачачы такое нестабільнае эканамічнае становішча, я зрабіў некаторыя разьлікі па вырабу хімічных рэчываў з адыходаў вытворчасьці. Было прагледжана 312 тысяч варыянтаў. Тры варыянты, якія, на мой погляд, мелі пэрспэктыву ва ўмовах нашага аб'яднаньня, былі адразу прапанаваны прадстаўнікам адміністрацыі, на што я атрымаў адмову—утвараць малыя прадпрыемствы, выдаткоўваць сродкі на гэтыя мэты...

Пасьля адмовы маіх прапаноў я падумаў, што нядрэнна было б на базе аб'яднаньня стварыць структуру, якая самастойна змагла б займацца вырашэньнем вышэйзгаданай праблемы. У якасьці аднаго з магчымых варыянтаў я прапанаваў назваць яго "Фондам альтэрнатыўных напрамкаў" і напісаў прыкладны статут. Далей я папрасіў разгледзець яго, выказаць на гэты конт свае думкі зацікаўленых асоб, а калі ен яшчэ не дасканалы, то дапамагчы выправіць недахопы і, знайшоўшы кампраміс, зарэгістраваць яго належным чынам. Пасьля ўсяго гэтага я быў зволнены з работы па скарачэньню кадраў...

Вось далека ня поўны пералік таго, што было напісана ў мінулагоднім калектыўным дагаворы й чаго на самой справе ня было і ў паміне, дзякуючы адпаведнай дзейнасьці адміністрацыі і маўклівай згодзе завадзкога прафсаюза. Дык каму патрэбна такая пісаніна?

Адзіная высноўа, да якой я прыйшоў: афіцыйна праз газэту зьвяртаюся да грамадзкасьці й мясцовых уладаў з просьбай дапамагчы мне ў гэтай справе, бо я й дагэтуль лічу, што гэта патрэбна ня толькі мне.

В.Сухі.

## ДЗЕ БЫЛА ВАННА—ТАМ СЬВІНАФЕРМА

Калі ўчуў ад калегі, што адзін гарадзенец трымае ў ваннай дзяржаўнай кватэры пару малодых падсьвінкаў, не даў веры. Захацелася асабіста самаму праверыць, пагладзець. Трохпакаёўка па вуліцы Болдзіна не сустрэла настойлівым рохканьнем паршукоў. А гаспадар кватэры ветла засьмяяўся й згадаў, што яго выхаванцы добра пад'елі і зараз адпачываюць. Калі ёсьць жаданьне паглядзець, то калі ласка. Невялічкае памяшканьне ваннай хоць і мала паходзіла на клець, але й не адпавядала свайму першаснаму прызначэньню. Аблупленая фарба, пагрызеныя сьцены і ўстойлівы пах дапаўнялі паршучкі кіляў па 20 вагі.

"Суседзі не чуюць паху, бо штодня па некалькі разоў прыбіраю рукатворную клець, - распавядае гаспадар. - Адна бяда - гэтыя ныгоднікі пагрызьлі сьцены. Любяць мел, відаць ім не хапае вітамінаў. Ды яшчэ існуюць пэўныя праблемы з дамачадцамі, ім не хапае камфорту. Жонка ўвогуле ад такога суседзтва трапіла ў кардыялёгію. Сыны па тры ночы не начуюць дома. Адзін я цярплівы, бо ведаю, што на восень буду мець кіляў дзьвесьце свайго мяса. Часовыя цяжкасьці мяне не палохаюць. На раніцы кармлю сам свой набытак. У абед сястра дапамагае, увечары наноў сам завіхаюся. Ведаеце, чакаць дапамогі няма ад каго, - дзяржава бедная, грамадства жорсткае, так што кожны павінен выратоўвацца паасобку. Я вось знайшоў сабе падробак і буду яго разьвіваць, за лета на лоджыі пляную стварыць сапраўдную забэтанаваную клець з вентыляцыяй. Тады паглядзім, хто будзе ў выгадзе.

Г.АСТРОЎСКІ.

## СЕНА Й САЛОМА ДЛЯ НЕБАГАТАГА ДОМА

Хранічны дэфіцыт сродкаў на самае неабходнае не давёў да роспачы некаторых гарадзенскіх пэнсіянэраў. А наадварот, прымусіў успомніць забытае. Так, васьмідзесяцігадовыя пэнсіянэры дзед Язэп і бабка Яніна з вуліцы Левеля ў Горадні, паставіўшы новыя клёпкі ў дзяжы, самастойна выпякаюць хлеб.

Вынаходніцтва выявіў і сямідзесяцігадовы пэнсіянэр К. - ён стала эканоміць на сродках паліва. Альтэрнатывай тут служаць кінутыя на вуліцах і сьметніках драўляныя рэчы, якія гарадзенец штодзень зьбірае, каб вытапіць у печы.

Рэньцістка Ж. назамен адслужыўшых сваё цюфякоў самаручна пашыла новыя й напоўніла іх саломаю. "Усё ж таньней", - уздыхае "шчасьлівая" гарадзенка.

Г.У.

## ЗНАЙШЛІ ВЫЙСЬЦЕ

Некалькі рабочых завода такарных патронаў, што ў Горадні, якія зараз знаходзяцца ў вымушаным адпачынку, вырашылі не губляць час, а зарабіць пэўную капейку. Амаль штодзённа яны прыязджаюць на адно возера ў Гарадзенскім раёне і ловяць падлешчыкаў. Пасьля рыбалкі падкармліваюць рыбу кашай і здаюць вылаўленую ў прыёмны пункт ці прадаюць насельніцтву, зарабляючы штодзённа па 20-30 тысяч рублёў. На наступны дзень прыязджаюць зноў і нікому не дазволяць рыбачыць на іх месцы.

Д.А.

## У ВЫМУШАНЫ АДПАЧЫНАК

Трэці месяц большасьць інжынерна-тэхнічных работнікаў завода "Радыепрыбор" не працуе. Адпачынак ІТР працягнецца да траўня, а затым, па меры неабходнасьці, адміністрацыя плануе адзываць з водпуску сваіх інжынераў і тэхнікаў.

Інакш вырашаюць пытаньні з працаўладкаваньнем на гарадзенскай швейнай фабрыцы. Тут, дзякуючы намаганьням нядаўна створанай на фабрыцы камэрцыйнай структуры знайшлі выйсьце. Камэрсанты дастаюць неабходную сыравіну й забясьпечваюць ей вытворчыя цэхі. Апошні такі падарунак камэрсантаў—імпартовая тканіна з Галандыі.

А вось аб'яднаньне "Вяселка" даўно працуе з сумежнікамі на давальніцкай сыравіне. Такі падыход кіраўніцтва хоць і ня вырашае істотна матэрыяльных праблемаў працуючых, але затое не дазваляе праводзіць скарачэньні.

З сакавіка ўсе працуючыя пэнсіянэры гарадзенскага піўзавода звольнены з працы. Прычына—перапоўненыя склады прадпрыемства гатовай прадукцыяй.

Г.Назіральнік.



## СКРЫПАЧ-САМАВУЧКА

У Скідалі й яго навакольлі добра ведаюць скрыпача-самавучку А.В.Саколіна. Аляксандр Вікеньцьевіч - жаданы госьць на вясельлях, народных сьвятах і гуляньнях. Сваё майстэрства музыка перадае нашчадкам, даючы ім урокі ва ўласнай хаце.

На здымку: А.В.Саколін падчас чарговага ўроку.

Фатаграфаваў І.БАРЫСЛАЎ.

СУМЕЖЖА

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

* Польшча стане арганізатарам трэцяй канфэрэнцыі "Усход-Захад", у якой возьмуць удзел міністры эканомікі, прамысловасьці й замежнага гандлю найбольш разьвітых краін сьвету, г.зв. сямёркі й дзесяці постсацыялістычных дзяржаваў.

Сустрэча адбудзецца 6-7 траўня ў Варшаве.

* Віцэ-міністар культуры й мастацтва З.Падканскі наведаў Беласточчыну й сустрэўся з мясцовымі дзеячамі культуры. У ходзе сустрэчы адзначалася, што ў 1989 годзе на культуру было выдаткавана 22% дзяржаўнага бюджэту, а ў 1994годзе - толькі 0,65%.

* Прэзідэнт Беластока Л.Руткоўскі й мэр Горадні Г.Крупенка падпісалі пагадненьне аб гаспадарчым, навуковым і культурным супрацоўніцтве. У сустрэчы ўдзельнічаў мэр Калінінграда А.Канюшэнка, які разглядаў асновы трохбаковага пагадненьня:Беласток - Горадня - Калінінград, якое плянуецца падпісаць у траўні гэтага года.

* Другі міжнародны тыдзень тэатра прайшоў у Беластоку. Па запрашэньню мясцовага драматычнага тэатра імя А.Вянгеркі ў сталіцу ваяводзтва з'ехаліся тэатры з Лондана, Менску, Вільні, Браціславы, Загрэба.

Акторы Менскага тэатра імя Я.Купалы падрыхтавалі спэктакль "Віват імпэратар" паводле п'есы "Крэслы" Э.Іанэско.

* У Беластоку адбыўся трохдзённы кірмаш фірмаў, якія займаюцца будаўніцтвам і афармленьнем інтэр'ераў. У ім прыняло ўдзел 48 прадпрыемстваў і гандлёвых фірмаў з Летувы й Беларусі.

* На 22-ім міжнародным кірмашы тэкстылю ў Беластоку на працягу тыдня свае вырабы прапанавала каля 70 прадпрыемстваў з краіны й з-за мяжы. Беларусь на кірмашы прадстаўлялі фірмы з Баранавічаў і Магілёва.

* "Бельская кааліцыя" - так называецца супольны выбарчы камітэт, заснаваны ў Бельску-Падляскім Саюзам Левых Дэмакратаў, Вуніяй Працы, Беларускім Выбарчым Камітэтам і Саюзам Украінцаў Падляшша.

Камітэт мае праграмны характар і намерваецца вылучыць супольных кандыдатаў падчас найбліжэйшых выбараў у мясцовыя самаўрады.

**Па матэрыялах польскага друку.**

# ВЕСТКІ З ЛЕТУВЫ

Дзьве трэціх усіх злачынстваў у краіне зьдзяйсьняюцца асобамі ва ўзросьце да 29 гадоў, а большасьць з іх - непаўнагадовыя. Толькі летась злачыннасьць сярод моладзі ўзрасла на 21 працэнт. Большасьць злачынстваў зьдзяйсьняецца ў месцах, якія яе прадстаўнікі наведваюць: дыскатэкі, кафэ. Крадзяжы складаюць чатыры пятых ад іх колькасьці, астатнія - забойствы й згвалтаваньні.

У лютым у Летуве меньш за ўсё падаражэў сыр і сьвежая рыба - на 5 працэнтаў, малако - на 6, хлебабулачныя вырабы - на 7, крупы й бульба - на 8, тлушч - на 12, сьвежая гародніна - на 16. Найбольш (на 30 працэнтаў) павялічыліся кошты на сушаную гародніну й арэхі. У тым жа месяцы на 21 працэнт патаньнелі яйкі, на 5 працэнтаў - цукар, на 2 працэнты - кава й гарбата.

Прэзідэнт Летувы А.Бразаўскас уручыў дзяржаўную ўзнагароду Летувы - медаль першай ступені Ордэна Вялікага князя Літоўскага Гедымінаса - грамадзяніну Латвіі, перакладчыку Альфону Сукоўскі, за больш чым паўвекавую плённую літаратурную дзейнасьць, заслугі перад летувіскай дзяржавай. Ён пераклаў на латышскую мову больш 30 кніг летувіскіх пісьменьнікаў.

Рашэньнем урада краіны з 1 красавіка прыпыняецца стымуляваньне дзейнасьці ўсіх прадпрыемстваў гандлю, страхаваньня, прадастаўленьня юрыдычных паслуг, а таксама інвестыцыйных таварыстваў, якія маюць статус МП. Не будуць стымулявацца яшчэ 12 відаў дзейнасьці: пасрэдніцтва, выраб піва й віна, ювелірных, скураных і футравых вырабаў, арганізацыя турпаездак за мяжу, дэманстрацыя відэафільмаў. Аднак, калі іх прыбытак ад асноўнай дзейнасьці не перавышае 30 працэнтаў, яны змогуць карыстацца падаткавымі ільготамі. Раней урад не стымуляваў толькі гандаль кампутарамі й легкавікамі.

На 1 сакавіка ў Летуве было прыватызавана 4332 прадпрыемствы, ці каля 70 працэнтаў усіх прадпрыемстваў, якія падлягаюць прыватызацыі. 2370 дробных прадпрыемстваў былі прададзены на аўкцыёнах. Сярод буйных і сярэдніх больш за ўсё прамысловых прадпрыемстваў - 527, сярод дробных - прададзена больш прадпрыемстваў гандлю - 1042. Дзяржаўны капітал усіх прыватызаваных прадпрыемстваў склаў 474,7 мільёна літаў. Зараз ідзе працэс прыватызацыі яшчэ 137 прадпрыемстваў.

З 1 сакавіка павялічваюцца тарыфы на пасажырскія й грузавыя перавозкі на чыгунцы і ў міжгародных аўтобусах, якія амаль год не зьмяняліся. За 1 кілямэтар праезда ў цягніку давядзецца плаціць больш 2 цэнтаў пры ранейшых 1,6 цэнта, у міжгародным аўтобусе - 4-4,5 цэнта (раней 3-3,5). А за перавозку транзітных грузаў па чыгунцы Летува будзе разьлічвацца швэйцарскімі франкамі па расцэнках адзінага транзітнага тарыфу. Тарыфы на мясцовыя, экспартныя й імпартныя перавозкі будуць уніфікаваны, каэфіцэнт на іх складзе 3,5 літа.

**(л.д.)**

# ЯК ДАЕХАЦЬ ДА ВІЛЬНІ

## Інтэрв'ю з загадчыкам консульскага аддзела Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Я.А.Шастаковым

- Сёньня шмат гавораць аб увядзеньні візавага рэжыму паміж Рэспублікай Беларусь і Летувой. Зьяўляецца шмат самых розных чутак і меркаваньняў. Ці не магля б Вы растлумачыць, што гэта на самой справе азначае?

- Пастараюся. Справа ў тым, што ў сувязі з пастановай Урада Літоўскай Рэспублікі аб увядзеньні візавага рэжыму ўезда-выезда для грамадзян краін СНД меркавалася ўвядзеньне візаў і для грамадзян Рэспублікі Беларусь і асоб без грамадзянства, якія стала пражываюць на яе тэрыторыі.

Аднак, разумеючы ўсю складанасьць і адказнасьць гэтага кроку, прымаючы да ўвагі эканамічныя, культурныя й сваяцкія сувязі, што існуюць паміж дзвума дзяржавамі, увядзеньне візавага рэжыму, якое планавалася Літоўскай Рэспублікай з 1 лістапада 1993 года, неаднаразова пераносілася на пазьнейшы тэрмін.

25 лютага 1994 года паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Летувы былі падпісаны два пагадненьні - Часовае пагадненьне аб узаемных паездках грамадзян і Пагадненьне аб спрошчаным парадку пропуска праз дзяржаўную мяжу, прычым першае з іх ужо набыло моц. Пагадненьне, у прыватнасьці, прадугледжвае неабходнасьць атрыманьня з 1 сакавіка 1994 года візаў для грамадзян Рэспублікі Беларусь і асоб без грамадзянства, якія стала пражываюць на яе тэрыторыі, для ўезду на тэрыторыю Летувы, альбо праезду праз яе тэрыторыю транзітам. У сваю чаргу, тое самае прадугледжваецца й для грамадзян Летувы і асоб без грамадзянства, якія стала пражываюць на яе тэрыторыі. Аднак у дачыненьні да грамадзян Летувы візавы парадак уезду пачне дзейнічаць толькі з 2 красавіка 1994 года.

- З Вашых слоў я зразумеў, што ўжо сёньня для таго, каб ад'ехаць у Летуву, жыхары Беларусі павінны атрымоўваць летувіскую візу, а ў самы бліжэйшы час гэта спатрэбіцца й для жыхароў Летувы. Ці не маглі б Вы растлумачыць, як гэта ўсё выглядае на практыцы?

- Жыхары Беларусі, якія жадаюць наведаць Летуву, павінны зьвяртацца ў консульскі аддзел Пасольства Летувы ў Менску альбо атрымоўваць запрашэньне адпаведнай формы, якое выдаецца службай міграцыі Летувы. Акрамя таго, тыя грамадзяне Беларусі, якія на сёньняшні дзень працуюць альбо навучаюцца ў Летуве, павінны зьвярнуцца ў Дэпартамэнт міграцыі Летувы, які знаходзіцца ў Вільні па вул.Салтонішку,19.

Грамадзяне Летувы, якія жадаюць ад'ехаць у Беларусь, павінны, пачынаючы з 21 сакавіка 1994 года, зьвяртацца ў консульскі аддзел Пасольства Рэспублікі Беларусь у Летуве па адрасу: Вільня, П.Клімо,8. Візы будуць выдавацца штодзённа, у працоўныя дні, акрамя серады. Гэты дзень неабходны консульскай службе для апрацоўкі прынятых дакумэнтаў. Тыя грамадзяне Летувы, якія працуюць альбо навучаюцца ў Беларусі, павінны зьвяртацца ў службы аддзелаў віз і рэгістрацыі (АВІР) Беларусі па месцах сталага жыхарства, а таксама ў пасольствы Летувы ў Беларусі.

- Ці не маглі б Вы расказаць больш падрабязна аб тым, якія бываюць візы і што патрэбна для іх атрыманьня?

- Па-першае, у адпаведнасьці з падпісаным пагадненьнем, атрыманьне візаў не патрэбна для:

грамадзян абодзьвюх дзяржаў, якія маюць дыпляматычныя пашпарты,

членаў экіпажаў паветраных судоў грамадзянскай авіяцыі, уключаных у сьпіс экіпажа,

работнікаў цягніковых, рэфрыжыратарных і лакаматыўных брыгад чыгунак па імянных сьпісах і маршрутных лістах, зацьверджаных на кожны рэйс,

членаў экіпажаў рэйсавых пасажырскіх аўтобусаў, якія ажыцьцяўляюць перавозкі па маршрутах, узгодненых адпаведнымі ўстановамі абедзьвюх дзяржаў,

грамадзян абедзьвюх дзяржаў, узрост якіх 65 год і больш,

грамадзян адной дзяржавы, якія накіроўваюцца да першага студзеня 1995 года на санаторна-курортнае лячэньне на тэрыторыю другой дзяржавы пры наяўнасьці пуцёвак.

Таксама візы ня будуць патрабавацца для грамадзян Рэспублікі Беларусь і членаў іх сямей, якія маюць дакумэнт аб захаваньні імі права на грамадзянства Летувы, і для жыхароў Летувы і членаў іх сямей, за якімі захоўваецца права на грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Наконт апошняй катэгорыі асоб магу сказаць наступнае. Цяпер распрацоўваецца й узгадняецца дакумэнт, які будзе выдавацца грамадзянам Летувы, за якімі захоўваецца права на прыняцьце грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Плануецца, што выдача гэтага дакумэнта пачнецца праз 3 месяцы. Якія для гэтага неабходна прадставіць дакумэнты й які будзе парадак выдачы гэтага дакумэнта, будзе дадаткова аб'яўлена ў прэсе.

Для ўсіх астатніх катэгорый асоб неабходна атрымоўваць візы.

Інструкцыяй Рэспублікі Беларусь аб выдачы візаў прадугледжаны візы трох катэгорый (дыпляматычная, службовая, звычайная), прычым маюцца наступныя віды візаў:

уяздныя візы, сапраўдныя для аднаразовага ўезду ў Беларусь (напрыклад, для наведваньня сваякоў, знаёмых, турызма і г.д.),

транзітныя візы для перасячэньня тэрыторыі Беларусі транзітам для паездкі ў іншую дзяржаву,

шматразовыя ўяздныя візы, што выдаюцца на больш працяглы тэрмін (як правіла, да 1 года), якія згодна існуючых на сёньняшні дзень правілаў выдаюцца пасьля ўзгадненьня з Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь пры наяўнасьці падстаў для шматразовага ўезду ў рэспубліку.

Для атрыманьня аднаразовай уязной візы неабходна зьвярнуцца ў Пасольства Рэспублікі Беларусь і прадставіць адпаведныя дакумэнты. У якасьці падстаў для выдачы візаў будзе разглядацца адзін з наступных дакумэнтаў:

пісьмо, факс, тэлекс запрашаючай арганізацыі, паведамленьне органаў аддзелаў віз і рэгістрацыі (АВІР) Міністэрства ўнутраных спраў аб прыватным запрашэньні, візавая падтрымка з Міністэрства замежных спраў Беларусі, ваўчары рэспубліканскіх турыстычных арганізацый,

а таксама патрэбны:

дзве запоўненыя стандартныя візавыя анкеты з подпісам заявіцеля, дзве фатакарткі 35х45 мм.

Транзітныя візы выдаюцца пры неабходнасьці перасячэньня транзітам тэрыторыі Беларусі з нагоды паездкі ў іншую краіну.

Для іх атрыманьня таксама неабходна запоўніць візавыя анкеты і прадставіць 2 фатакарткі. Візы выдаюцца пасольствам на працягу 4-5 рабочых дзён, у экстрэных выпадках тэрмін выдачы візы можа быць зьменшаны па рашэньню кіраўніка консульскай службы пасольства.

- Але могуць быць і экстрэныя выпадкі, напрыклад хвароба ці, барані Божа, сьмерць каго-небудзь з сваякоў. Што рабіць у такім выпадку?

- Жыцьцё ёсьць жыцьцё. У такіх выпадках, калі ёсьць тэлеграма, пацьверджаная ўрачом альбо службай міграцыі, можна атрымаць візу бясплатна, проста на мяжы.

- У мяне ёсьць знаёмы, у якога маці жыве ў Ашмянах. Што ён павінен рабіць?

- Кожны такі канкрэтны выпадак будзе разглядацца асобна. У дадзенай сытуацыі перш за ўсё я б параіў узяць даведку па месцы жыхарства яго маці (у пашпартным стале, ЖЭКе, ЖБК, сельсавеце) і падаць хадайніцтва ў пасольства аб атрыманьні шматразовай візы. Аднак, паўтараю, рашэньне ў дадзеным выпадку прымаецца Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Пасольства пры наяўнасьці дазволу, выдае візу. Але ў будучым, мне здаецца, практычна ўсе падобныя пытаньні будуць вырашаны пасьля таго, як пачнецца выдача дакумэнтаў для грамадзян Летувы, за якімі захоўваецца права на грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Аднак, ня будзем забягаць наперад. Дазволю сабе толькі яшчэ раз паўтарыць, што па кожнаму такому выпадку будзе прынята асобнае рашэньне.

- Напэўна кожнага сёньня таксама хвалюе пытаньне аб кошце візы. Не маглі б Вы назваць канкрэтныя лічбы?

- Кошт віз будзе вызначаны на падставе парытэту. Так, калі на сёньняшні дзень аднаразовая ўяздная віза ў Летуву для грамадзяніна Рэспублікі Беларусь каштуе 5 долл. ЗША, а віза, якая выдаецца ў тэрміновым парадку, - 7 долл.ЗША, то, відавочна, такую ж суму давядзецца плаціць і грамадзянам Летувы, якія жадаюць ад'ехаць на тэрыторыю Беларусі. Канкрэтныя памеры консульскага збору за выдачу розных відаў віз будуць апублікаваны ў бліжэйшы час у прэсе пасьля іх канчатковага ўзгадненьня.

**(Заканчэньне на 8-й стар.)**

